

# Ключы да практыкаваньняў

## Уступ.

**14.**
прамы вугал, гандлёвыя рады, размаўляю па-беларуску, вялікія моры, чалавек жартуе, фарба жоўтая, шосты рад, чую гром, дрэнная рэч

**17.**
на вадзе, дзён, у гурце, у клопаце, у лёдзе, у палёце, судзіць

**24.**
Нядаўна было гэткае здарэньне. Трэба купіць зімовае адзеньне. Якое ў цябе пытаньне? Гасьцей поўнае застольле. Першае каханьне. Ціха шэпча калосьсе. Гэта справядлівы судзьдзя. Зьмянілася надвор'е. Мне знаёмае яго аблічча. Гэта было цікавае вандраваньне. Здароўе — найлепшае багацьце.

**25.**
Паляўнічы на паляваньні. Добрае пачуцьцё гумару. Ён упэўнены ў сваіх перакананьнях. Перад ад'ездам будзе разьвітаньне. Ён купіў мужчынскае адзеньне. Смачнае сьняданьне. У скрынцы сьмецьце.

## Заняткі першыя.

**2.**
Усё жыцьцё ў навуцы. Зьмітра ў дарозе. Вязу малой дачцэ гасьцінец. Пінжак вузкі ў плячох. Купім дзецям па цаццы.

**3.**
Дзеці мусяць паважаць сваіх бацькоў. Працую з татам. Мы жывём пры бацькох. Унукі шануюць сваіх бабуляў і дзядуляў. Мы не сьпявалі гэткіх песень. Я запрашаю на вечарынку сябра і сяброўку.

**5.**
У пакоі ёсьць канапа, але няма ложка. У мяне ёсьць залвіца, але няма швагры. На стале ёсьць алавік, але няма паперы. У мяне ёсьць кампутар, але няма аўтаадказьніка. Я маю выходны ў нядзелю, але ў суботу ня маю.

**6.**
Пётра (хто? – Н.) лёг на канапу (на што? – В.).
Рука з прыгожым бранзалетам (з чым? – Т.).
Еду да сястры (да каго? – В.).
Дам дзіцяці (каму? – Д.) смачную цукерку (што? – В.).
Забраў дачок (каго? – В.) з садку (з чаго? – Р.).
Ма рыхтуемся да сьвята (да чаго? – Р.).
Дрэвы (што? – Н.) ў сьнегавых шатах (у чым? – Т.).
Яго вачэй (чаго? – Р.) не відаць з-пад броваў (з-пад чаго? – Р.).
Я заўсёды пільнуюся правілаў (чаго? – Р.).

**10.**

суффиксами могут сохраняться мягкие *дз* и *ц*: **лі*дзі*/*р*авацъ** [л'ідз'і/равац'], **ц*і*р** = [ц'і/р], **каман*дзір*о/ўка = [камандз'іро/ўка]**.

### 8) Спалучэньні *дж* і *дз* (сочетания *дж* и *дз*).

Сочетания букв ***дж*** и ***дз*** произносятся вместе и передают один звук: **ара*дж*э/ньне = [нараджэ/н':э], *дз*е/ці = [дз'э/ц'і], *дз*яўчы/на = [дз'аўчы/на], *дз*ень = [дз'э/н'], а*дз*і/н = [адз'і/н], га*дз*і/на = [гадз'і/на]** . Поэтому на письме, при переносе, эти буквы нельзя разделять: **дро/ж-джы, ха-дзі/ць**.

Отдельно сочетания букв ***дж*** и ***дз*** произносятся только на стыке приставки и корня: ***ад*зна/ка = [ад/зна/ка], *над*звыча/йны = [над/звыча/jны], *ад*жы/ць = [ад/жы/ц']**. В этом случае сочетания ***дж*** и ***дз*** обозначают два разных звука: [д][ж] и [д][з] соответственно.

### 9) Ужыва/ньне ў — у нескладо/вага (употребление *ў* — у неслогового).

После гласных буква ***у*** всегда переходит в ***ў***: **хлеб *у*весь — зьел<u>і</u> *<u>ў</u>*весь; улез *у* сад — увайшл<u>і</u> *<u>ў</u>* хату**. Буква ***ў*** может находиться в начале, в середине и в конце слова: **пр<u>а</u>*ў*да, д<u>а</u>*ў*, в<u>о</u>*ў*к п<u>о</u>ўны, д<u>о</u>*ў*га, іш<u>о</u>ў, б<u>ы</u>*ў*, н<u>а</u> ўлоньні**.

Звук **[ў]** произносится также вместо звука **[в]** после гласных перед согласными: **гала*ва*/ — гало/*ў*ка**. В определённых случаях в звук **[ў]** переходит звук **[л]**: **каза/*л*а — каза/*ў***.

Буква ***ў*** не образует самостоятельного слога, поэтому и называется *у нескладовае (у неслоговое)*.
Употребление буквы ***ў*** являет собой одну из отличительных особенностей белорусского языка, которой пренебрегать нельзя.

### 10) Прыстаўны/я гало/сныя *а, і* (приставные гласные *а, і*).

Приставные гласные ***а, і*** произносятся и пишутся в начале слова перед согласными: ***р, л, м, ў***: ***А*мсьціcла/ў** (Мстиславль), ***а*ўто/рак** (вторник), ***а*ржаны/** (ржаной), ***а*мшэ/лы** (обомшелый), ***і*льго/ты** (льготы), ***і*мгла/** (мгла), ***і*ржаве/ць** (ржаветь).
Перед начальным ***і*** почти всегда при произношении возникает приставной **[j]**: **і/скры = [jі/скры], іржа/ = [jіржа/]**.

Приставные гласные исчезают, если предшествующее слово заказчивается на гласный звук: **новы*я ль*готы**. Нет приставных звуков и в словах, которые сохраняют корневой гласный: **л*о*б — на л*о*/бе, м*о*х — на м*о*/се, л*ё*д — на л*ё*/дзе**.

### 11) Прыстаўны/я зы/чныя *в, г* (приставные согласные *в, г*).

Приставная согласная ***в*** произносится и пишется перед ударными ***о, у*** в начале слова: ***во*/чы** (глаза), ***во*/сень** (осень), ***во*/жык** (ёжик), ***ву*/шы** (уши), ***ву*/сны** (губы), ***ву*/зкі** (узкий), ***Во*/рша** (Орша).
Приставное ***в*** появляется также в середине слова после приставок: **<u>за</u>*в*ушні/цы** (серьги), **<u>за</u>*ву*/лак** (переулок), **<u>на</u>*ву*/ка** (наука), **<u>ні</u>*во*/дзін** (ни один), **<u>у</u>*во*/сень** (осенью).

!

Приставного ***в*** не бывает:
1) В словах, где неударное ***о*** переходит в ***а***: ***во*/зера — *аз*ё/ры**. Исключение составляют слова и производные от них: **вока** (глаз) — **вачэ/й, востры** (острый) — **вастры/ць, вакол** (вокруг) — **вако/ліца, вожык** (ёжик) — **важаня/ты, вуж** (уж) — **вужа/ка**.
2) В исконно белорусских словах, где ***у*** развилось из ***в***: **уну/к** (внук), **учо/ра** (вчера), **ула/да** (власть), **успамі/н** (воспоминание) и некоторых др.
3) В словах иностранного происхождения, небелорусских именах и фамилиях, небелорусских географических названиях: **унівэрсытэ/т** (университет), **Ге/рбэрт Уэ/лс** (Герберт Уэлс), **Джо/рдж О/руэл** (Джордж Оруэл), **Уфа/** (Уфа), **О/сла** (Осло).

**6.**
легчы на канапу, пакласьці ў шафу, глядзецца ў люстэрка, запаліць лямпу, памыць шклянку, заслаць сурвэту, лашчыць кацяня, даглядаць дзядулю, зайсьці ў кватэру, купіць мэблю, есьці салату, ісьці на працу

**7.**
Воспитываем детей. По морю ходят большие пароходы. Я не помню такого случая. Хозяйка подала завтрак. Пойдем через сквер. Сестра пошила юбку. Малыш идет за игрушкой.

**9.**
Іду лесам. Еду аўтобусам. Еду цягнíком. Плыву катэрам. Ляту самалётам. Буду тынкоўнікам. Паеду вясной (вясною). Сустрэнуся раніцай (раніцаю). П'ю каву зь вяршкамі. Займаюся з выхаванцамі. Апякуюся дзіцем. Цікаўлюся мастацтвам. Працую рукамі. Працую фальваркоўцам.

**10.**
ядзім лыжкай (лыжкаю), ядзім відэльцам
п'ём шклянкамі, п'ём кубкамі, п'ём слоікамі
іду зь сёстрамі, іду зь сяброўкамі, іду з гасьцямі
малюю фарбай (фарбаю), малюю алоўкам, малюю пэндзалем
сустракаюся зь сябрамі, сустракаюся зь дзяўчатамі, сустракаюся зь Ясем

**12.**
**а)** Бацька ў камандзіроўцы. Маці ў пральні. Сястра на вечарынцы. Дзеці на лузе. Сябра на Сьвіслачы.
**б)** Ён: у вучэльні, у тэатры, у Сібіры, на плошчы, на вясельлі, у краме, у парку, на сьнезе, на Нарачы, пры вучню, пры бабулі, пры маці, пры Мікіце.

**13.**
зубранё ў пушчы, Ясь на ганку, пакой у кватэры, коўдра на ложку, парасон у сумцы, фіранка на вакне, кветка ў руцэ, аўта на дарозе, яблык на талерцы, човен на рацэ, кот на парозе, качкі на возеры, студэнт у інтэрнаце

**15.**
І тут і там мае сябры. У Грэцыі — пан Дымас. З замежнікаў ён мой найлепшы прыяцель. Усе спасьцігаюць бізнэс, а пан Дымас застаецца верны свайму прызваньню, як і я. Ён спэцыялісты ў галіне будаўніцтва, дойлід, якіх мала. У сваім творстве за крыніцу натхненьня ён мае помнікі даўніны.

Каштоўнасьці, непадуладныя часу — вось што бывае тэмай нашых гутарак у часе вандровак.

— Чалавек — гэта яго памяць, — кажа Дымас, і я згодны зь ім. Гляджу на велічныя забудовы і думаю пра людзей, якія пакінулі ў гэтых мурох адбітак сваёй душы.

**16.**
Я з жонкай, дачкой і сынам едзем у электрычцы. Сёньня нядзеля, і мы, як заўсёды, наведваемся да бацькоў. Яны жывуць убаку ад чыгункі. Вярсты тры яшчэ трэба ісьці праз лес. Але гэта нам падабаецца. Прыемнай бывае нечаканая сустрэча з жыхарамі лесу: зайцамі, дзятламі, вавёркамі. Іншы раз сьмялейшай вавёрцы можна падаць пачастунак і нават пасьпець дакрануцца да хваста. Гэта вельмі забаўляе маіх малых. Колькі тут бывае радасьці, сьмеху, а потым гутаркі як вады, усю дарогу.

## Заняткі трэйція.

**2.**
Найбліжэйшы прыпынак. Найлепшыя гады. Найвышэйшы гатунак. Найлягчэйшая вага. Найсаладзейшы напой.

**3.**

кату па пяту — малы, аднаго поля ягады — аднолькавыя, біты воўк — вопытны, хоць куды — выдатны, на сёмым небе — вясёлы, маладзіца як брусьніца — чырванашчокая кабета, плячысты на жывот — прагны (ненаедны)

**4.**
рыжыя валасы, зялёная кашуля, шэрыя вочы, бэжавае аўта, чырвоная стужка, паласаты кавун, блакітны шалік, чорная кава

**5.**
паўднёвы вецер, жахлівы выгляд, вусаты дзядзька, бульбяная страва, кішэнны ліхтарык, малінавы колер, ружовы пялёстак

**6.**
Наваградзкі, Лідзкі, Нясьвіскі, Вушацкі, Сураскі, латыскі, заводзкі, сьвецкі, казацкі, аршанскі

**7.**
якасныя: высачэзны
адносныя: знаёмы, ільняная, морскае, пясчаная, зямная, камэрцыйны
прыналежныя: братава, дзедаў, матулінага

**8.**
пражываньне ў шыкоўным гатэлі, Беларусь на вольным рынку, радасьць у свабодным творстве, дзеці ў гульнявой залі, гармідар на школьным двары, згода ў супольнай працы, сьвечкі на старадаўняй жырандолі, імпрэза ў купалаўскім тэатры, дзяўчына ў нацыянальным строі

**9.**
новае начыньне — навейшае — найноўшае
мяккі каўнер — мякчэйшы — наймякчэйшы
чырвоны колер — больш чырвоны — самы чырвоны
смачны яблык — смачнейшы — найсмачнейшы
прывабная мясьціна — прывабнейшая — найпрывабнейшая
салодкія маліны — саладзейшыя — найсаладзейшыя
забаўныя прыгоды — больш забаўныя — самыя забаўныя
цёплае паліто — цяплейшае — найцяплейшае
зграбная рэч — больш зграбная — найзграбнейшая
высокая будыніна — вышэйшая — найвышэйшая
пісьменны праўнік — больш пісьменны — самы пісьменны
малы сабачка — меншы — самы меншы
цяжкая валізка — цяжэйшая — найцяжэйшая

**10.**
**а)** Вольчын большы сын. Людмілiна меншая сястра. Аркадзевы крэўныя.
**б)** Піліпаў студэнцкі пакой. Ксеніны бурштынавыя каралі. Максімава новае паліто.

**11.**
Тут студэнцкі ўтульны пакой. Там бацькавы пісьмовыя прылады. Каля стала братава камputаровае начыньне. На падлозе Мікітавы новыя часапісы. На рагу стала Колеў заўсёдны нататнік. Тут сяброўчын замежны слоўнік. Там Сяргеевы сонцаахоўныя акуляры. На падлозе сястрыная бліскучая цацка. Тут Мікітаў пісьмовы стол. Там сябравы патрэбныя паперы. Там мой праезны квіток. На рагу стала матчыны цыравальныя ніткі. Тут наш драўляны зэдлік.

**12.**
Утульны сьветлы пакой. Густоўны інтэр’ер. Яго складовая частка — адметныя рэчы ў беларускім гусьце. Сурвэта. Прыгожа аформлены куфэрак. Рознага колеру кветкі.

Што яшчэ? На сьцяне — старадаўні відарыс гербу Пагоня. Выштукаваны гадзіньнік. Мэбля. Кафляны камінак. Каля сьцяны, справа, шафа. Зьлева сьветлая канапа. Справа крэсла. Люстэрка. Яно ў прыгожай аправе. Мяккі каберац на падлозе. Угары пад стольлю арыгінальная люстра. На вокнах крэмавыя самадзялковыя фіранкі.

**15.**
вулічны рух, марскія хвалі, дарожны ліст, дубовая мэбля, ліпавы цьвет, волкае паветра, вярбовы дубец, рачны басэйн, маёвы жук

## Заняткі чацьвертыя.

**1.**
Не, ён выдавец. Не, яны прыежджыя. Не, яна братава сяброўка. Не, яна паштарка. Не, яно Вольчына.

**2.**
Што я ведаю пра Вярбіцкіх? Я нічога ня ведаю пра іх.
Што я ведаю пра таго хлапца? Я нічога ня ведаю пра яго.
Што я ведаю пра Вольку? Я нічога ня ведаю пра яе.
Што я ведаю пра спадара Лявіцкага? Я нічога ня ведаю пра яго.
Што я ведаю пра спадарыню Людмілу? Я нічога ня ведаю пра яе.
Ты паедзеш з Паўлюком на адпачынак? Не, я не паеду зь ім.
Ты даваў дзіцяці папіць? Не, я не даваў яму папіць.

**3.**
ягоная сястра, ейны муж, ейная кляса, ягоны сабака, іхныя дзеці, ейны ўнук, ягоны настаўнік

**4.**
іхны, іхная, іхнае; ейнае, ейны, ейную; ягоны, ягоныя, ягоныя

**5.**
Тут нейкія незнаёмыя дзяўчаты. Ён некага шукаў. Некаму гэта будзе патрэбна. Нехта забыўся ў аўтобусе сваю валізку. Гэта штосьці цікавае. Пакліч хутчэй каго-небудзь. Чамусьці ён мне не патэлефанаваў.

**7.**
Я незнаёмы з тым спадаром. Я яшчэ не чытаў тае кнігі. Таго прыежджага я ня ведаю. Ён даў грошы той касірцы. Пайду прывітаюся з тою дзяўчынаю. Той спадар наш бухгальтар.

**8.**
маё тое шэрае, мае тыя бялявыя, іхні той мураваны, ягоная тая ля сквэру, ейны той квяцісты, іхны той смуглявы, мае тыя ў канвэрце

**10.**

**а)** — Гэта крэсла?
— Не, гэта фатэль. Ён мяккі, а крэсла — тое, драўлянае.

**б)** — Ці гэта тая дзяўчына?
— Так, гэта тая дзяўчына.

**в)** — Хто яшчэ гэта чуў?
— Не, ён казаў гэта толькі пры мне.

**г)** — Для каго мы купім гэтую цацку?
— Мы купім табе гэтую цацку.

**д)** — Няўжо гэта брэша суседзкі сабака?
— Не, гэта ня іхны сабака.

**е)** — Ці чытаў ужо хто тую кнігу?
— Той кнігі яшчэ ніхто не чытаў.

**ж)** — Што гэта за алавік у цябе?
— Не, у мяне не алавік, а ручка.

**11.**
Мікіта ў маёй сястры. Алесь у свайго дзядзькі. Тут яе рэчы. Дзеці ў тым аўтобусе. Паклажа ў ейнай валізцы.

**12.**
**а)** Каторыя на сьцяне? Каторыя ў скрынцы? Каторыя ў народных строях?
**б)** На чым ён знаецца? Ён на ўсім знаецца? Каторы гэткі знавец?
**в)** Ці ёсьць у каго гэткі падручнік? Гэткага падручніка ні ў кога няма?

**13.**
Пры кім вучыцца Антось? Каго мы пойдзем сустракаць? З кім паедзе Васіль за мяжу? Чым цікавіцца Людміла? У каго мы будзем на вясельлі? Каму падзякаваў госьць? З кім заўтра я буду мець гутарку? З кім прывітаўся Мікіта? Каму пацiснуў руку? Каму нешта прыемнае сказаў? У каго я яшчэ ня быў? У чыей кватэры я яшчэ ня быў?

## Заняткі пятыя.

**1.**
Дзяўчына чыста мые вокны. Хлопцы заўсёды рагочуць з маіх жартаў. Ён маўчыць, таму што ня ведае, што казаць. Нашы сябры, як толькі прыехалі, адразу ж трапілі на вясельле. Малы дзьме ў дудку і надта ж цешыцца з гэтага. Мой брат сталяр, ён майструе. Нядаўна зрабіў ложак. Яны гандлююць у краме харчовым таварам.

**2.**
дзякаваць — ён дзякуе, яны дзякуюць
абяцаць — ён абяцае, яны абяцаюць
зарабляць — ён зарабляе, яны зарабляюць
уцякаць — ён уцякае, яны ўцякаюць
бедаваць — ён бядуе, яны бядуюць
дараваць — ён даруе, яны даруюць
гаспадарыць — ён гаспадарыць, яны гаспадараць
крыўдзіць — ён крыўдзіць, яны крыўдзяць
смажыць — ён смажыць, яны смажаць
блішчэць — ён блішчыць, яны блішчаць
важыць — ён важыць, яны важаць
знаёміць — ён знаёміць, яны знаёмяць
саладзіць — ён салодзіць, яны салодзяць
лічыць — ён лічыць, яны лічаць

**3.**
Яна прасуе бялізну. Я апранаю паліто. Мы кладзем агуркі на стол. Яна разумее мяне. Ён папалудне дома. Яны сустракаюць цябе. Маці прыгарнула дзіця да сябе. Настаўнік разьмяркоўвае абавязкі.

**4.**
**а)** умацаваць здароўе, замацаваць веды, запазьніцца на працы, запярэчыць спаборшчыку, утрымаць пазыцыі, удасканаліць плян

**б)** панакупляць харчоў, панакупляць сувэніраў, паначапляць цацак, панасыпаць пяску, запытаць дазволу, запрасіць гасьцей
**в)** выгадаваць дзяцей, адгадаваць ву́сы, выкруціць лямпачку, выкруціць дрот, выкупіць кнігу, выкупіць рэч, выказаць думку
**г)** дагледзець хворага, угледзець памылку, унізаць ёлку, ураўнаважыць шалі, далучыцца да гурту

**5.**
счэзнуць, падпільнаваць, пачакаць, пашукаць, скарыстаць, спадабацца, паслухаць, прывітацца, падпаліць, спарадкаваць, зразумець, растлумачыць, зганіць, згвалціць, зважыць

**6.**
Суседка хварэе на ныркі. Наша кампанія апякуецца беларускім тэатрам. Мы чакаем на тэлевізійнага майстара. Вітаўт ажаніўся з маёй сястрой Юляй. Вандроўцы йдуць незнаёмаю дарогаю. Сватоў сын вучыцца бальных танцаў. Бацькі выбачаюць сваім дзецям. Малыя цешацца з навагодняй ёлкі. Начальнік сэктару паведамляе кіраўніка прадпрыемства. Цешча ўмешваецца да асабістага жыцьця маладых. Абслуга сэрвіс-цэнтру знаецца ў кампутарах розных мадэляў. Наш выбраньнік заслугоўвае на давер.

**7.**
**а)** групаваць, канспэктаваць, фінансаваць, даглядаць, сартаваць, камандаваць, абуваць, кватараваць, замыкаць, страляць, праграмаваць, перадаваць, карміць, зьмяняць, кіраваць, марозіць
**б)** пагаршаць, зьмяншаць, шыкаваць, упрыгожваць, чырванець, перавышаць, маўчаць, вучыць, чысьціць, ваяваць, саліць, сябраваць, знаёміць, служыць, гатаваць, пільнаваць

**8.**
Апранайцеся! Гадуйцеся! Сьмейцеся! Сустракайцеся! Папытайцеся! Знаёмцеся! Прывітайцеся! Радуйцеся!

**10.**
Мой брат Пётра мае невялікую кватэру, але ўсім досыць мейсца. У іх жывуць птушкі, рыбкі, заводны сабака Векша і кот Плютон. Ці ўяўляеце сабе гэткую сьціжму жыўнасьці? А ўсё таму, што мой пляменьнік Юзя вельмі любіць зьверанятаў. Ён корміць і даглядае сваіх улюбёнцаў. Гэты занятак ёсьць яго найлепшай уцехаю. А ўвогуле Юзя моцна паважны і цямкі хлапец. Шмат у чым ён падобны да свайго бацькі.

**11.**
я вучуся, я наважыўся, я сьмяюся, я забыўся, я спадзяюся, я адгукаюся, я пытаюся, я апранаюся, я нуджуся, я зьвяртаюся, я бяру, я маю

**12.**
Максім спадарожнічае знаёмым у паездцы. Ён унікае гэтай размовы. Гэты напой наталяе смагу. Госьць доўжыць сваю гутарку. Дзеці пераймаюць паводзіны бацькоў. Гэты прыежджы харчуецца ў рэстарацыі. Яна загадала прыбраць усё лішняе.

**13.**
Дасьцё нам адрас? Апранеш паліто? Ясі мясную салату? Змарнуеце час? Забараняеш курыць у кватэры? Бяром гэты куфэрак? Пячэш рыбу? Бяжы́це далей? Глядзі́це тэлевізійны фільм? Бавіце час? Даруеце карціну? Гатуеш каву? Дапамагаеце бацькам? Віншуеце са сьвятам? Жывяце за мяжой? Запрашаеце на вясельле?

**14.**
Дзіця сумуе па маці. Я намерыўся купіць сабе капялюш. Юля наведае хворага бацьку. Яны выпраўляюцца ў дарогу. Я жыва прыпамінаю тую сустрэчу. Ён бацьку скардзіўся на мяне.

## Заняткі шостыя.

**4.**
сямнаццатым, чацьвертаму, шэсьцьдзесят першай, першага, адзінаццатай

**5.**
пяці дрэваў, трох сябраў, шасьці чалавек, дваіх дзьвярэй, абедзьвюх дзяўчын, дзьвюх сябровак, ста аднаго далмацінца, трох сабак, чатырох кампутараў, дзевяці жыцьцяў, абодвух летапісцаў, чатырнаццаці праграмаў, васьмі спадарожнікаў, дваіх кацянятаў

**6.**
абодвух, абодвум, абодвух, абодвума, пра абодвух

**7.**
Сустрэліся за паўтара кілямэтру ад станцыі. У цеста трэба пакласьці дзьве траціны шклянкі цукру. Прыйшлі паўтары гадзінамі пазьней. Прыедзе праз паўтары гадзіны. Гэтым дзьвюм дарогам не сысьціся. Маю паўтара слоіка варэньня. Кавалак кужалю на паўтраця мэтру. Да дому засталося паўчварты кілямэтру.

**8.**
пяцьцю карткамі, дзевяцьцю кубкамі, дваццацьцю ўдзельнікамі, трыццацьцю нумарамі, дзьвюма лыжкамі, васьмю байцамі, чатырнаццацьцю з паловай кіляграмамі, трыма падручнікамі, дванаццацьцю фламастэрамі, паўтары хвілінамі, сарака сямю кілямэтрамі

**9.**
Дзесяць раз мер і то ня вер. Мінула чвэрць стагодзьдзя. Прайшла траціна веку. Мы на парозе трэйцяга тысячагодзьдзя. Незьлічоныя паданьні старажытных муроў. Хвілін праз колькі пачнецца нарада. На ганку стаяць трое незнаёмых хлапцоў. Маладзёвы часапіс выходзіць двойчы на месяц. Дзед цьвічыць абодвух сваіх унукаў. Абедзьве дзяўчыны прывіталіся з настаўнікам. Падніміце абедзьве рукі ўгару. Наш дом стаіць на скрыжаваньні дзьвюх вуліцаў.

**10.**
На ганку многа хлапцоў. Сьветлых азёраў тут безьліч. Шмат разоў зьмянялася іхняя назва. У гэтым лесе грыбоў а грыбоў. Процьма народу ў чарзе. Усе дамы на шмат паверхаў. Мала даць брыдка, а многа шкода. На іхнай вуліцы шмат дрэваў.

**11.**
Колькі часу? Калі выходжу з дому? Як дабіраюся на работу? З кім сёньня маю стрэчу? Колькі зойме гутарка з партнэрам? Што запісана ў электронным нататніку? За каго сёньня давядзецца быць? Як завуць дзіця? Што мы робім? Калі мы ўжо дома? Як доўга Юзя гатовы слухаць казкі? Ці падабаецца Юзю выразнае чытаньне?

**15.**

**а)** — Зь беларускіх азёраў найвялікшае Нарач.
— Якая яго даўжыня?
— Пэўна, кілямэтраў зь дзесяць ці мо й болей.

**б)** — Каторая гадзіна? / Колькі часу?
— Ужо сёмая гадзіна.

**в)** — Бацька дома?
— Дома.
— Пакліч яго.
— Тата заняты, ён у гаражы.
— Калі ён вызваліцца?
— Праз гадзіну-дзьве.

**г)** — Ён у сталым вяку?
— Не, яму гадоў пад трыццаць.

**д)** — Дзе вы будзеце на Новы год?
— Сьвяткаваць будзем сваёй сям’ёй, утраіх.

## Заняткі сёмыя.

**1.**
засланы абрусам стол, пачутыя навіны, вывучаная мова, пакліканы чалавек, ацэнены тавар

**2.**
пройдзены шлях, зробленая праца, куплены аловак, зачыненыя дзьверы, здарожаныя вяскоўцы, пазычаныя грошы, падабраныя колеры, пагаслыя вочы, засьмяглыя вусны, загарэлы твар, нечапаныя мясьціны.

**3.**
**а)** Дагледжанае бацькамі дзіця. Дагледжаны лекарам хворы. Дагледжанае гаспадарамі жыльлё. Дагледжаная бацькамі гаспадарка.
**б)** Хлопчык, апрануты ў сьвяточны касьцюм. Дзяўчынка, апранутая ў сьнягурку. Жанчына, апранутая ў футра. Дзяўчынка, апранутая ў народны строй. Хлопчык, апрануты ў мядзьведзя.

**4.**
памаляваная падлога; распушчаны тлушч; пафарбаваны каўнер; памытае, пакупанае, прыбранае дзіця; спарадкаваныя рэчы; пабеленая столь; чэзлыя расьліны; пасалоджаная кава; узмацнелы дзяцюк; замкнёныя дзьверы

**5.**
Гэта ўпэўнены ў сабе чалавек. Тут адзін уцалелы мур. Зьмены ўстаноўчых дакументаў былі ўхваленыя сходам акцыянэраў. Мне трэба купіць сродкі чышчаньня. Усе, што чакаюць вынікаў, адчуваюць некаторае хваляваньне. Гэта вучні, як яны сядзяць і слухаюць свайго настаўніка. Канцэрт, які не адбыўся ўчора, адбудзецца ў нядзелю. Пачатак фільма зьнеахвоціў мяне глядзець яго далей, і я змушаны быў пайсьці.

**6.**
**а)** жартуючы, п’ючы, хвалюючы, кажучы
**б)** увайшоўшы, сустрэўшы, зьлічыўшы, прыйшоўшы, сабраўшы, пад’еўшы

**7.**
Рана выйшаўшы з дому. Працаваў, скрозьназіраючы за парадкам. Яны жылі, радуючыся кожнаму дню. Цэлы дзень даймаў пытаньнямі, замінаючы ў працы. Уважліва слухаю, спрабуючы ўцяміць.

**8.**
Зараз пайду на палудзень. Увечары прыйду да вас. Стаю збоку. Наўкола чуваць музыку. Ён некуды пайшоў. Нікуды мы ня пойдзем. Празь лес мы ішлі памалу. Ён штораз папраўляе акуляры. Мейсца ў кватэры досыць. Аднойчы я быў на Нарачы. Мы былі дома. Мы паедзем дамоў. Шво трэба класьці ўпоперак. Ходзішча перарабляюць ушыр.

**9.**
роўны — роўна — раўней
доўгі — доўга — даўжэй
шырокі — шырака — шырэй
добры — добра — лепей / лацьвей
блізкі — блізка — бліжэй

салодкі — салодка — саладзей
чырвоны — чырвана — чырваней
вузкі — вузка — вузей
прыгожы — прыгожа — прыгажэй

**10.**
Століь уверсе. Падлога ўнізе. Акно ззаду. Канапа зьлева. Шафа ззаду. Тэлевізія справа. Карціна зьлева. Дыван унізе.

**11.**
холадна — цёпла, ціха — гучна, далёка — блізка, тут — там, наперадзе — ззаду, туды — сюды, па-новаму — па-старому, уверх — уніз, мякка — цьвёрда, многа — мала, удзень — уначы, добра — дрэнна, зьлева — справа, рана — позна, цёмна — сьветла, чыста — брудна, дорага — танна, гучна — ціха, павольна — шпарка, дрэнна — добра, рэдка — часта, высока — нізка, глыбока — мелка, меней — болей, зблізку — здалёк, моцна — слаба, коратка — доўга

**13.**
Дзе я маю сяброў? Ці бачыў што прыгажэйшай за Беларусь? Як завуць маіх сяброў? Хто яны? Дзе зараз Марцін і Луіза? Ці ўпершыню яны ў Менску? У якіх мяйсцох я асабіста спатыкаю радасьць? Які наш наступны маршрут?

**15.**
**а)** — Мы ідзём ня ў той бок.
— Пэўна, трэба вярнуцца, прайсьці тымі прысадамі і зьвярнуць улева.

**б)** — Адгэтуль ці патрапім мы на вуліцу Гусоўскага?
— Якраз гэта вельмі проста. Мінуўшы другое скрыжаваньне, зьвернем управа.

**в)** — Мусім перасесьці на сямёрку і праехаць яшчэ прыпынкаў колькі.
— Так, зараз выходзім.

**г)** — З чаго пачнем нараду?
— Перш-наперш скажы мне, ці ўсе прыйшлі.

**д)** — Ці бачыў ты Міхася?
— Калі-нікалі ён наведваецца сюды. Але апошнім часам — ня бачыў.

**е)** — Мы заблукалі кудысьці далёка.
— Але й прыкра!

**ж)** — Іх дзеці дагледжаныя і заўсёды прыбраныя.
— Гэта прыстойная, угрунтаваная сям’я.

## Заняткі восьмыя.

**1.**
Лазьня каля дому. Машына на двары. Яны на двары. Пральня пры заводзе. Гасьцёўня ў кватэры. Возера сярод лесу.

**2.**
ажаніўся зь дзяўчынай, дзіўлюся зь яго, сумую па ёй, сьмяюся зь іх, кпяць зь мяне, спазьніліся праз цябе, згодна з артыкулам, прайшоў гушчаром, віншую зь сьвятам, сяджу пры кампутары, зайшоў па дзіцяця, іду дарогай

**3.**

Надыдзе/Прыедзе: па абедзе, праз гадзіну, да вечара, каля сёмай гадзіны, да раніцы, у сьнежні, празь нядзелю, надвячоркам, пасьля сьвята, у чацьвер, праз паўтары хвіліны, на золаку, апоўдні, уначы.

**4.**
перапрашаць каго? (В.), прабачаць каму? (Д.), дараваць каму? (Д.), спагадаць каму? (Д.), слугаваць каму? (Д.), пагаджацца з кім? (Т.), сустракаць каго? (В.), дзякаваць каму? (Д.), дакляраваць каму? (Д.), сумаваць па кім? (М.), баліць каму? (Д.), апранаць што? (В.), спрыяць каму? (Д.), выконваць што? (В.)

**6.**
старэйшы за мяне, вышэйшы за цябе, маладзейшы за яго, разумнейшы за ўсіх, мацнейшы за нас, лепшы за іншых

**8.**
**а)** На сьвята спадзяёмся гасьцей і вечарынкі. У дарозе замарыліся, ды не зажурыліся. Ясь здатны дзяцюк, ды яшчэ які здатны!
**б)** Вычуваньне такое, нібы знаёмы зь імі шмат гадоў. Нікому нічога ня рупіць, быццам мне аднаму толькі трэба прагчыся.

## Заняткі дзявятыя.

**1.**
Ніхто не чакаў яго прыезду. Ніхто нічога не пытаецца. Нікому не паслалі запрашэньне. Нікому ня трэба браць білеты. Ніхто ня хоча ехаць. Я нікуды не зьбіраюся ехаць. Мы не паедзем дадому цягніком. Дзеці нікуды з намі ня пойдуць. Ніколі ня ходзім на шпацыр. Яны сёньня нікога не сустракаюць . Ён нічым нам ня можа паспрыяць. Няма ніводнага вольнага мейсца. Уладзя, ня стаў кубак на стол! Не заходзьце сюды! Я не магу справіцца з гэтай работай!

**4.**
Ці скончыш працу да нядзелі? Куды ты накіраваўся? Дзе мы зараз знаходзімся? У якім баку аўтавакзал? Ці ўсе рэчы складзеныя? Пачакаеш мяне на рагу вуліцы? Прыйдзеш сёньня да нас на вячэру? Пойдзем заўтра ў Верхні горад на шпацыр? Выбераш, што пачытаць з новых кніг? Апранеш на сустрэчу новы капялюш? Ці ясьцё вы дома гэткую салату? Ці купілі вы яблыкаў? Чыё гэта аўта стаіць на двары? Хто будзе даглядаць хворага, пакуль вас няма? Калі Алесь ажаніўся з Воляю?

**7.**
Білет да дому я ўзяў туды й назад. Цягнік адыходзіць у 11 гадзінаў. Цяпер на маім гадзіньніку роўна 10. Значыць, застаецца яшчэ добрая гадзіна. Трэба здаць рэчы на схоў і прайсьціся па бліжэйшых крамах. Хачу купіць дзецям штосьці з ласункаў. Танінай дачцэ, самай меншай маёй пляменьніцы Натальцы, асабліва падабаюцца менскія цукеркі. Куплю, калі знайду. Якраз па дарозе трапілася крама з прывабнаю назваю «Госьціца». Хіба зайсьці сюды? Тутака ёсьць тыя цукеркі.

**10.**
У нас сёньня вольны вечар, і я наважыў купіць білеты ў тэатар. «Якая цудоўная ідэя, — сказала мая жонка. — Я буду рада пайсьці з табою ў тэатар, паглядзець добры спэктакаль. Бяры білеты лепш у сярэдзіне, 9-11 рад, калі можна».

Я так і зрабіў. Увечары а 7 гадзіне мы пайшлі ў купалаўскі тэатар глядзець «Князя Вітаўта».

Ці верыце, гэта было надзвычайна хораша!.. Перанесьціся ў XIV стагодзьдзе, убачыць дзівосную кветку тых часоў — Беларусь, тады гэта было Вялікае Княства Літоўскае. Я зьведаў эстэтычную асалоду. Акром таго, узбагаціліся мае веды з гісторыі Беларусі.

На маю думку, «Князь Вітаўт» — лепшы спэктакаль, які я калі-небудзь бачыў. Усе акторы цудоўна выконвалі свае ролі. Мне дык надта спадабаўся выканаўца галоўнай ролі. Гэта папраўдзе таленавіты актор. Раю вам абавязкова паглядзець «Князя Вітаўта».

## Заняткі дзясятыя.

**1.**
Да двух дадаць восем будзе дзесяць. Чатыры, памножанае на пяць, раўняецца дваццаць Адна цэлая і пяць дзясятых плюс тры цэлыя і чатыры дзясятых раўняецца чатыры цэлыя і дзевяць дзясятых. Ад сямі адняць тры будзе чатыры. Пяць ды дзевяць будзе чатырнаццаць. Трыццаць два падзяліць на чатыры будзе восем. Ад чатырнаццаці цэлых і васьмі дзясятых адняць адзінаццаць цэлых і адну дзясятую будзе тры цэлых і сем дзясятых. Двойчы чатыры будзе восем. Дваццаць ды трыццаць будзе пяцьдзесят. Шэсьдзесят тры падзяліць на сем раўняецца дзевяць. Шэсьць, памножанае на чатыры, раўняецца дваццаць чатыры. Сорак два падзяліць на шэсьць будзе сем.

**5.**
колькасныя: 4, 2, ½;
парадкавыя адсутнічаюць;
адказ: у вераб'я 50 дзяцей.

## Заняткі адзінаццатыя.

**7.**
А ці прыстойная гэта рэстарацыя? Якую назву мае рэстарацыя? Колькі чалавек прыйшло ў рэстарацыю? Яны прыйшлі палуднаваць? Дзе быў вольны столік? Які заказ яны справілі? Гэных страваў нараіў ім афіцыянт? Ці параіў ён ім узяць дзічыну? Ці ўзялі яны гусь зь яблыкамі? Ці заказалі яны мяса дзіка? Ці ўзялі яны гарэлкі? Што яны сказалі? — «Досыць»? Ці задаволены яны? Ці вялікі быў іх рахунак? Які стравы ў мэню вас зацікавілі? Якія беларускія стравы вам падабаюцца? Акрамя згаданых, якія яшчэ беларускія стравы вы ўжо ведаеце? Які беларускі сынонім слову «мэню»? Якое пажаданьне вы скажаце чалавеку ў часе яды?

## Заняткі дванаццатыя.

**3.**
Трэба ехаць адну гадзіну. Стаяць у чарзе будзем з паўгадзіны. Едзем на цэлы тыдзень. Затрымаемся на некалькі дзён. Маладзёвы часопіс выходзіць двойчы на месяц. Адзін раз на тыдзень бачуся зь імі. За мяжой бываю рэдка. Год таму назад пачаў вучыць беларускую мову. Вярнуся назад праз паўтара месяца. Да палудня трэба закончыць работу.

## Заняткі трынаццатыя.

**1.**
Што трэба, каб атрымаць грашовы перавод? Якую найбольшую вагу можа мець пакунак? Колькі трэба плаціць за пакунак? Ці зважваюцца каштоўныя лісты? Ці хутка спраўляецца заказ на тэлефонную размову? Што ўплывае на кошт тэлефонных размоваў? Як запрасіць да тэлефона? Ці заўсёды добра чуваць падчас тэлефоннай размовы? Як трэба пісаць адрас на паштовых дасылках? Ці шмат вы плаціце за тэлефон? Дзе можна знайсьці патрэбны нумар тэлефона? Як вы скажаце: «Зараз перадам яму слухаўку»?

**2.**
зважыць пакунак, укінуць канвэрт у скрынку, заплаціць за паслугу, вакенца да запатрабаваньня, напісаць ліст, купіць марку для пісьма за мяжу, напісаць адрас адпраўніка, кабіна нумар тры

**5.**

**а)** Прывітаньне зь Менску!
Лічы ўсе справы залатвіў, засталося яшчэ правесьці дзьве сустрэчы. Мяркую вярнуцца 31 студзеня.
Мікіта.

**б)** Вітаю вас!
У мяне ўсё нармалёва. Не пашанцавала з надвор'ем, тутака бясконца йдзе дождж. Сумую па вас. Убачымся праз два тыдні. Ваш знаёмы, Марцін, перадае вам прывітаньне.
Да пабачэньня, Андрэй.

**в)** Добры дзень, Кацярына Васільеўна!
Прыеду цягніком «Менск-Прага» ў ваўторак увечары. Сустракайце.
Максім.

**г)** Прывітаньне!
Не турбуйцеся, у мяне ўсё добра. Затрымаюся яшчэ на дзён колькі. Перадайце Ірыне, што ў панядзелак раніцаю буду ўжо дома.
Аркадзь.

## Заняткі чатырнаццатыя.

**6.**

**а)** — Прабачце, вы ня ведаеце, ці адчынены схоў ручное паклажы?
— Адчынены, але трэба сьпяшацца: праз колькі хвілінаў будзе перапынак.
— Носіч, занясіце, калі ласка, мае рэчы ў схоў.

**б)** — Але ж і доўгі чарод у касу! Прабачце, можа б вы мяне прапусьцілі? Мой цягнік зараз адыдзе. Баюся, каб не спазьніцца.
— Я не супраць. Але папытайцеся ў тых, хто стаіць паперадзе.

**в)** — Ці гэтае мейсца ля вакна вольнае? Можна яго заняць?
— Калі ласка, прашу.
— Дзякую.

**г)** — Цікава, колькі мы стаім на гэтай станцыі?
— Ня ведаю. Першы раз еду па гэтым маршруце.
— А куды вы едзеце?
— Да Берасьця.
— Дык вы а шостай гадзіне будзеце там. А мне яшчэ ехаць ды ехаць.

**д)** — Душна ў вагоне. Калі б крыху прачыніць вакно? Вы не супраць?
— Так, адчыняйце, калі ласка... А вы ж яшчэ й ў цёплым швэдры!

## Заняткі шаснаццатыя.

**2.**
Мне баліць скура на раменах. Дзіця захварэла на адзёр. У самалёце яго ванітуе. Трэба ісьці на рэнтген. Баліць у грудзях, доктар прызнаў запаленьне лёгкіх. Ён лечыць дзясны.

**8.**
Мне баліць зуб. Трэба йсьці да дантыста.
На руках зьявіліся нейкія плямы. Трэба йсьці да дэрматоляга.
Баляць цягліцы на шыі. Пэўна застудзіў. Трэба йсьці да масажыста.
Блага сплю, хутка стамляюся. Трэба йсьці да нэўрапатоляга.
Нешта зрок саслабеў. Трэба йсьці да акуліста.
Выцяў руку. Баюся, каб не было пераломў. Трэба йсьці да траўматоляга.
Баліць галава, пал. Трэба йсьці да тэрапэўта.

**10.**

З маіх сяброў Андрэй маладзейшы за ўсіх. Яму 21 год, але выглядае ён крыху сталейшым. Высокі, ён 190 сантымэтраў росту. Моцны, добрая пастава. Прыгожы авал твару, адкрыты пагляд. Нос мерны, прамы, валасы русыя, карыя вочы. Яму да твару ўсьмешка. Ціхамірны характарам. Зычлівы, спагадны. Калі сябра ў бядзе, Андрэй заўсёды дапаможа. Адзінае, што мне не падабаецца ў ім — ён смаліць цыгаркі. Вось што мне прыкра! Я б так хацеў, каб ён вызваліўся ад гэтай шкоднай звычкі.

Андрэй вучыцца на трэйцім курсе Менскага радыётэхнічнага інстытуту. З раньня й да вечара ён пільнуецца свайго раскладу дня. З васьмі гадзінаў ён на лекцыях, каля дзьвюх гадзінаў дня сканчае заняткі. Палуднуе, а тады йдзе ў бібліятэку. Да 17 гадзінаў яму трэба падрыхтавацца да заўтрашніх заняткаў, спаткацца з сябрамі, а потым ён мусіць быць на сваім працоўным мейсцы. Андрэй падпрацоўвае ў адной кампутаровай фірме, і мае намер пайсьці туды працаваць, калі скончыць вучобу ў інстытуце.

## Заняткі сямнаццатыя.

**5.**

1—10, 2—5, 3—7, 4—2, 5—1, 6—3, 7—11, 8—6, 9—9, 10—4, 11—8.

**8.**

Сёньня я маю вольны дзень, і я займаюся хатнімі гаспадарчымі справамі. Перагледзеў наш абутак — трэба тое-сёе падладзіць. Патрэбны новыя падноскі, набойкі. У чаравіках трэба замацаваць абцас і яшчэ давядзецца памяняць замок. Вось гэтыя скураныя туфлі спачатку былі якраз, а цяпер штосьці тут замінае. Няўцям мне, адкуль выкасаўся яшчэ й цьвік!

Адным словам, мушу зьбірацца ў майстэрню. Рамонт абутку каля самага дому. Майстры ў нас неблагія, як сьлед спраўляюць сваю працу. Заўсёды парадзяць, падкажуць, што да чаго і як лепш абладзіць абутак. Паслугі вабутнікоў каштуюць, пэўна ж, нятанна, але затое на якасьць работ няма чаго жаліцца.

Пайду, пакуль час яшчэ ёсьць, праз паўгадзіны майстэрня зачыніцца.

## Кантрольная работа.

**1.**

«Прыехаўшы ў сталіцу, асабліва не раздумвайце, на чым дабірацца ў Стоўбцы, — аддайце перавагу чыгунцы: язда на электрычцы займе ўсяго паўтары гадзіны. Менавіта столькі ж часу ў нас будзе на знаёмства з, так бы мовіць, калячыгуначнымі славутасьцямі, найперш літаратурнымі. Праўда, да драбніцаў разабраць і засвоіць усё за гэты час проста немагчыма. Таму засяродзім увагу толькі на тым значным і адметным, што сустрэнецца.

За вакном вагона мільгаюць абрысы беларускай сталіцы, ззаду засталися гарадскія чыгуначныя прыпынкі Бальніца, Курасоўшчына і Гай. Залюбаваўшыся мясцовымі краявідамі, мы неўпрыкмет праяжджаем і станцыю Памысьлішча, і схаваныя ў зеляніне прычыгуначнай ахоўнай паласы прыпынкі Пціч ды Воўкавічы. І вось нарэшце Фаніпаль.»

(С.Галоўка)

**3.**

«У сярэдзіне XIII стагодзьдзя пачынаецца новая эпоха беларускае гісторыі — эпоха Вялікага Княства Літоўскага. Аб'яднаньне слабых і разрозьненных земляў у адну буйную дзяржаву было ў інтарэсах як балтцкага, так і ўсходнеславянскага насельніцтва, бо з усходу пагражалі мангола-татары, а з захаду пачыналі ціснуць нямецкія рыцары. Паміж літвой і крывічамі існавалі даўнія шчыльныя сувязі. Таму ўтварэньне дзяржавы адбылося натуральна і без асаблівага гвалту.»

(Ул.Арлоў, Г.Сагановіч)

# Беларуска-расейскі слоўнік

(Беларуско-русский словарь)

## А

**аб** а, об, про
**абабра́ць** очистить (картофель)
**абавя́зак, -зку** *м.* обязанность, долг
**абявязкова** обязательно, непременно
**абагрэ́ўнік, -а** *м.* обогреватель
**абанэ́нт, -у** *м.* абонент
**аба́пал** по обеим сторонам, с двух сторон
**абараня́ць** защищать, отстаивать
  **абарані́цца** защититься, отстоять
**абарона, -ы** *ж.* защита, оборона
**абвары́ць** ошпарить, обварить
  **абвары́цца** ошпариться, обвариться
**абве́стка, -і** *ж.* объявление
**абдзе́нь** за день, в течение дня
**абе́дзьве** обе
**абе́дны** обеденный
**абібок, -а** *м.* лентяй
**абла́дзіць** привести в порядок, сделать ремонт
**аблі́чча, -а** *н.* облик, лицо
**абмежава́ны** ограниченный
**абмежава́ньне, -я** *н.* ограничение
  **абмежава́ньне ху́ткасьці** ограничение скорости
**абмы́лка, -і** *ж.* ошибка
**абмяркоўваць** обсуждать
**абноч** в ту же ночь, за ночь
**абодва** оба
**абое** оба (тот, та, то)
**абрабля́ць** 1) возделывать; 2) придавать вид
**абру́с, -а** *м.* скатерть
**абры́дла** надоело, опротивело, прилось
**абслу́га, -і** *ж.* 1) обслуживание; 2) обслуживающий персонал
**абура́ць** возмущать
**абца́с, -а** *м.* каблук
**абцугі́, -оў** *мн.л.* клещи, щипцы
**аб'ядна́ньне, -я** *н.* объединение
  **вытворчае аб'ядна́ньне** производственное объединение
**а́бы** лишь бы
**а́бы-дзе** лишь бы где, где попало
**а́бы-што** 1) лишь бы что; 2) чепуха, вздор
**а́бы-як** кое-как, лишь бы как
  **зрабі́ не абы-я́к** сделай как следует
**абяца́ць** обещать
**ава́рыя, -і** *ж.* авария
**агарну́ць** 1) обернуть, накрыть; 2) завладеть, охватить
**агі́да, -ы** *ж.* 1) отвращение, мерзость, гадость; 2) отвратительный
**агі́дны** гадкий, отвратительный, омерзительный
**агля́д, -у** *м.* осмотр, обозрение, обзор
**аґрэ́ст, -у** *м.* крыжовник
**агурок, -рка́** *м.* огурец
**адбудава́ць** 1) отстроить; 2) восстановить
**адбы́цца** состояться
**адбі́так, -тку** *м.* 1) отражение, отпечаток; 2) копия, след
**адве́даць** навестить
**адгадава́ць** отрастить
**адгука́цца** откликаться, отзываться
**адзё́р, -у** *м.* корь (детская болезнь)
**адзі́н** один
  **адзі́ны** единственный
  **адзі́н-аднаго** друг-друга
  **адзі́н-адзіню́ткі** один-одинёшенек
  **аднаго ра́зу** однажды
  **адны́м заходам** заодно
  **усё́ адно** всё равно
**адзінота, -ы** *ж.* одиночество
**адзоў, -ову** *м.* 1) аппеляция; 2) отзыв
**адка́з, -у** *м.* ответ
**адка́зваць** отвечать
**адка́знасьць, -і** *ж.* ответственность
**адкла́дны (каўне́р)** отложной (воротник)
**адку́ль** откуда
**адлі́га, -і** *ж.* (у мн.л. **адлі́гі, адлі́г**) оттепель
**адме́тнасьць, -яў** *ж.* отличие, особенность
**адме́тны** отличительный, отличный
**адмовіцца** отказаться
**адмоўны** отрицательный
**адмысловы** 1) выдающийся; 2) особый, особенный
**адна́к** однако, но
**адне́куль** откуда-то
**аднойчы** однажды
**аднолькавы** 1) одинаковый; 2) единообразный
**адносны** относительный
**адноўлены** восстановленный
**адпаве́дны** соответствующий, соответственный
  **у вадпаве́днасьці** в соответствии
**адпачы́нак, -нку** *м.* 1) отдых; 2) отпуск
**адпра́ўнік, -а** *м.* отправитель
**адраджэ́ньне, -я** *н.* возрождение, восстановление
**адра́зачку** сразу же, тут же, в момент
**адра́зу** сразу
**адсотак, -тку** *м.* процент
**адсту́п, -у** *м.* отступ, красная строка
  **піса́ць з адсту́пу** писать с красной строки
**адсю́ль** отсюда
**адту́ль** оттуда
**адука́цыя, -і** *ж.* образование, просвещение
  **вышэ́йшая адука́цыя** высшее образование
**адукава́ны** образованный
**адусю́ль** отовсюду
**адхіну́цца** отлучиться, отклониться, отвернуться
**адці́снуць** отжать
**адхон, -у** *м.* откос, склон, косогор
**адчапі́цца** отцепиться, отстать
  **адчапі́ся!** отцепись! отстань!
**адчува́ць** чувствовать, ощущать, испытывать
**адчыня́ць** открывать, отворять (окно, двери)
**ад'е́зьдзіны, -аў** *мн.л.* отъезд
**адыма́ньне, -я** *ж.* вычитание

**ажані´цца** *з кім?* жениться
**ажэ´ўнік, -а** *м.* ежевика
**аза´дак, -дку** *м.* нижняя часть тела
**аздоба, -ы** *ж.* украшение, отделка
**А´зія, -і** *ж.* Азия
**азія´цкі** азиатский
**азнача´льны** 1) определимый; 2) определительный
**айчы´м, -а** *м.* отчим
**аказа´цца** откликнуться, подать весть
**акалі´чнасьць, -і** *ж.* обстоятельство
**акі´нуць** 1) забросить; 2) оставить без присмотра
**акра´ец, -йца** *м.* горбушка, краюха
**акром** кроме
**акры´сіцца** смотреть гневно, с недовольным видом
**аксамі´т, -у** *м.* бархат
**актор, -а** *м.* актёр
**акулі´ст, -а** *м.* врач-окулист
**акуля´ры, -аў** *мн.л.* очки
**але** 1) но, однако; 2) да, конечно
**але´й, але´ю** *м.* растительное масло
**алі´ва, алі´вы** *ж.* машинное масло
**аловак, алоўка** *м.* карандаш
**альґары´тм, -у** *м.* алгоритм
**альта´нка, -і** *ж.* 1) беседка; 2) мезанин
**ама´тар, -а** *м.* любитель
**амбаса´да, -ы** *ж.* посольство
**амбаса´дар, - а** *м.* посол
**амбі´тны** амбициозный
**Амэ´рыка, -і** *ж.* Америка
**амэрыка´нскі** американский
**па-амэрыка´нску** по-американски
**аналё´гія, -і** *ж.* аналогия
**аналізава´ць** анализировать
**аналі´тык, -а** *м.* аналитик
**аналіты´чна-інфармацы´йны** аналитическо-информационный
**ана´ляґ, -у** *м.* аналог
**аналяґі´чны** аналогичный
**Анґе´льшчына, -ы** *ж.* Англия
**анґе´льскі** английский
**па-анґе´льску** по-английски
**а´ні** нет ни, ничуть, нисколько
**а´ні-ні** нисколечко
**ану´ча, -ы** *ж.* 1) тряпка; 2) портянка; 3) женщина дурного поведения
**апа´дкі, -аў** *мн.л.* осадки
**апаўдні´** в середине дня
**апанава´ць** *каго? што?* 1) охватить, овладеть; 2) напасть
**апекава´цца** *кім? чым?* покровительствовать, опекать
**апе´нька, -і** *ж.* опёнок
**апё´к, -ку** *м.* ожог
**апіса´ць** 1) заполнить; 2) сделать опись; 3) описать
**апіса´ць блянк** заполнить бланк
**апіса´ць маё´масьць** сделать опись имущества
**апошні** последний
**апошнім ча´сам** в последнее время
**апрана´ць** надевать, одевать
**апрана´цца** одеваться
**апроч** 1) отдельно; 2) кроме
**аптэ´ка, -і** *ж.* оптека
**апыну´цца** очутиться, оказаться
**апэты´т,- у** *м.* аппетит
**апячы´ся** обжечься, опалиться
**ара´нжавы** оранжевый
**ара´ты, -ага** *м.* пахарь
**а´ркуш, -а** *м.* лист
**арты´кул, -а** *м.* статья
**архі´ў, архі´ву,** *м.* архив
**асаблі´васьць, -і** *ж.* особенность
**асабі´сты** личный
**асабовы** 1) личный; 2) лицевой
**асабовы раху´нак** лицевой счёт
**асоба, -ы** *ж.* личность, лицо
**юрыды´чная асоба** юридическое лицо
**асобнік, -а** *м.* экземпляр
**аста´тні** 1) остальной; 2) последний
**асыґна´цыя, -і** *ж.* оссигнация
**асьве´та, -ы** *ж.* просвещение, образование
**асьве´тніцкі** просветительский
**асьцярожнасьць, -і** *ж.* осторожность
**асьцярожны** осторожный
**асягне´ньне, -я** *н.* достижение
**ата´барыцца** обосноваться, осесть
**атачэ´ньне, -я** *н.* окружение
**атмасфэ´ра, -ы** *ж.* атмосфера
**атру´та, -ы** *ж.* отрава, яд
**атруці´цца** отравиться
**атру´чаны** отравленый
**аўды´т, -у** *м.* аудит
**аўдыторыя, -і** *ж.* аудитория
**а´ўта** *нескл.* легковой автомобиль
**аўтаадка´зьнік, -а** *м.* автоответчик
**аўтастра´да, -ы** *ж.* автострада
**аўтобус, -а** *м.* автобус
**аўтобусны прыпы´нак** автобусная остановка
**аха´йнасьць, -і** *ж.* опрятность, чистоплотность
**аха´йны** опрятный, чистоплотный
**ахвя´ра, -ы** *ж.* жертва
**ахвярава´ць** жертвовать
**ахова, -ы** *ж.* охрана
**ахоўваць** охранять
**ахці´ мне** 1) выражение печали: **ахці´ мне бе´днаму,** 2) удивление: неужто?
**ацале´лы** уцелевший
**ашука´ць** обмануть, надуть, провести
**ашчаджа´ць** сберегать, беречь

## Б

**ба´віць** (о времени) проводить, коротать, терять
**ба´віцца** 1) задерживаться; 2) забавляться, развлекаться
**ба´віць час** проводить время
**бавоўна, -ы** *ж.* хлопок
**бада´й** 1) чтоб; 2) пожалуй; 3) почти
**бада´й што** пожалуй так
**бадзё´расьць, -і** *ж.* бодрость
**ба´йка, -і** *ж.* басня
**балазе´** 1) так как; 2) благо; 3) хорошо

**балбата́ць** 1) трепаться, болтать, тараторить; 2) булькать, клокотать

**балбату́н, -а** *м.* трепач, болтун

**бале́сны** болезненый, хворый

**балё́н, -а** *м.* баллон

**ба́ль, ба́лю** *м.* 1) бал; 2) пир, пиршество

**балькон, -у** *м.* балкон

**бальні́ца, -ы** *ж.* больница

**бамбі́за, -ы** *м.* увалень, верзила, дылда, громила

**ба́нк, -у** *м.* банк

**ба́нкаўскі раху́нак** банковский счёт

**ашча́дны банк** сберегательный банк

**банкру́т, -а** *м.* банкрот

**барані́ць** защищать, оборонять

**барацьба́, -ы́** *ж.* борьба

**барвовы** ярко-красный

**барука́цца** бороться, меряться силой

**басанож** босиком, на босу ногу

**Баўга́рыя, -і** *ж.* Болгария

**баўга́рскі** болгарский

**баўдзі́ла, -ы** *ж.* балда, бестолковый, глупый человек

**ба́цька, -і** *м.* отец

**Ба́цькаўшчына, -ы** *ж.* I Отчизна, Отечество, Родина

**ба́цькаўшчына, -ы** *ж.* II отцовское наследство

**бацькі́, -оў** *мн.л.* родители

**бацькоўскі** 1) родительский; 2) отеческий

**ба́чыць** *каго? што?* видеть

**бе́гчы, бягу́, бы́жыш, бяжы́ць** бежать

**бедава́ць** горевать, скорбеть, сокрушаться, сожалеть

**безвыніковасьць, -і** *ж.* безрезультатность

**безвыніковы** безрезультатный

**бе́здань, -і** *ж.* 1) пучина; 2) бездна (очень много)

**безнадзе́йны** безнадёжный

**безная́ўны** безналичный

**безная́ўны курс** безналичный курс

**безумоўны** безусловный

**бе́зьліч** бесчисленное множество

**белару́с, -а** *м.* беларус

**белару́ска, -і** *ж.* беларуска

**белару́скі** беларуский

**па-белару́ску** по-беларуски

**Белару́сь, -і** *ж.* Беларусь

**Беларуская Наро́дная Рэспу́бліка (БНР)** Беларуская Народная Республика (БНР)

**Жыве́ Белару́сь!** Да здравствует Беларусь!

**Рэспу́бліка Белару́сь** Республика Беларусь

**бе́лы** белый

**бервяно, -а́** *н.* бревно

**беспрацоўны, -ага** *м.* безработный

**бессаромны** бестыжий, бесстыдный

**бесьсьмяротнасьць, -і** *ж.* бессмертие

**бібліятэ́ка, -і** *ж.* библиотека

**бібліятэ́кар, -а** *м.* библиотекарь

**біёляґ, -а** *м.* биолог

**бі́знэс, -у** *м.* бизнес

**бізнэсовец, -оўца** *м.* бизнесмен

**бі́знэс-пля́н, бі́знэс-пля́ну** *м.* бизнес-план

**біць** бить

**бі́бікі біць** бить баклуши

**біць лы́нды** бить баклуши

**біятэхналё́гія, -і** *ж.* биотехнология

**бла́га** 1) плохо, нехорошо, скверно; 2) тошно

**благі́** 1) дурной; 2) нездоровый, нехороший на вид; 3) ничтожный, малосильный

**благі́ бок** изнанка

**блакі́тны** лазурный, голубой

**блё́кат, -у** *м.* белена

**блізьня́ты, -аў** *мн.л.* близнецы

**бліскаві́ца, -ы** *ж.* молния, зарница

**бліску́чы** 1) блестящий, сверкающий; 2) замечательный

**блішчэ́ць** блестеть, сверкать

**блука́ць** 1) бродить, блуждать, плутать, скитаться; 2) шляться, шататься, слоняться

**блы́таць** путать

**блы́тацца** путаться

**ты блы́таешся** ты путаешься

**блытані́на, -ы** *ж.* путаница, неразбериха

**бляндьі́н, -а** *м.* блондин

**бля́нк, -у** *м.* бланк

**бля́ха, -і** *ж.* 1) противень; 2) жесть, кровельное железо

**бляша́нка, -і** *ж.* жестяная коробка, банка

**бо** потому что, ибо, так как

**бок, баку́** *м.* 1) сторона; 2) бок туловища

**бокі рваць** надрываться от смеха

**узя́цца ў бокі** подбочениться

**боль, -ю** *м.* боль

**больш-менш** более-менее

**большасьць, -і** *ж.* большинство

**борзды** живой, подвижный, проворный

**боты, -аў** *мн.л.* сапоги

**бра́зґат, -у** *м.* лязг, звяканье

**бра́зґаць** брякать, лязгать, греметь, звякать

**бразґотка, -і** *ж.* погремушка, побрякушка

**бракава́ць** не доставать, не хватать

**браку́е** не достаёт, не хватает

**мне браку́е сродкаў** мне не хватает средств

**бра́ма, -ы** *ж.* 1) ворота замка, крепости; 2) городские ворота; 3) триумфальные ворота; 4) всякие ворота с балкой наверху

**бранзале́т, -а** *м.* браслет

**браха́ць** 1) лаять; 2) клеветать, лгать, наговаривать; 3) говорить вздор, болтать

**саба́ка брэ́ша** собака лает

**бра́цца** клевать (о рыбе)

**ры́ба бярэ́цца** рыба клюёт

**бруд, -у** *м.* нечистота, грязь

**бру́дзіць** 1) грязнить, пачкать; 2) сорить

**бруі́цца** струиться

**бруі́цца Нё́ман** струится Нёман

**брукава́ны** мощённый булыжником

**брусьні́цы, -аў** *мн.л.* брусника

**брыво, -а** *н.* (у мн.л. **бровы, -аў**) бровь

**бры́дкі** 1) некрасивый; 2) дурной, отвратительный

**брыдота, -ы** *ж.* гадость, мерзость

**будава́ць** строить, сооружать, возводить

